

DC COMICS™

THE DARK KNIGHT RISES™

IN THEATERS
AND IMAX®
JULY 20

THE NEW 52!

11 | $3.99 US

# BATMAN®

ЭПІЧНАЕ
ЗАВЯРШЭННЕ
САВІНАГА
СУДА!

БЭТМЭН #11 (2011)
ПЕРАКЛАД COMICSBY

BY COMICS

SCOTT
SNYDER

GREG
CAPULLO

JONATHAN
GLAPION

DIRECT SALES
RATED T TEEN
SEP 2012
7 61941 30640 7 01111

Capullo '12



DC COMICS™

THE DARK KNIGHT RISES™

IN THEATERS AND IMAX® JULY 20

THE NEW 52!

11 | $3.99 US

# BATMAN®

THE EPIC FINALE OF THE COURT OF OWLS!


SCOTT SNYDER
GREG CAPULLO
JONATHAN GLAPION


BY COMICS

БЭТМЭН #11 (2011)
ПЕРАКЛАД COMICSBY


RATED T TEEN
DIRECT SALES
7 61941 30640 7 01121
SEP 2012


ГЭТА ЎСЁ, НА ШТО ТЫ ЗДОЛЬНЫ, БРАТ?
ЦІ ТЫ ПРОСТА ПАДДАЕШСЯ МНЕ?


МЫ НЕ БРАТЫ.

ТЫ ВАР'ЯТ У ГАРНІТУРЫ ПТУШКІ...

...І Я НЕ ГУЛЯЮ Ў ПАДДАЎКІ...

...УЖО ВЕЛЬМІ ДАЎНО!

ЦЯПЕР МАЯ ЧАРГА?
ВЫДАТНА.


ГЭТАЯ ГІСТОРЫЯ ВЯДОМА З АНТЫЧНЫХ ЧАСОЎ, БРУС. ДВА БРАТЫ, НАШЧАДКІ ВЯЛІКАГА ГОРАДА.


ЯК РОМУЛ І РЭМ! ЭЦЕОКЛ І ПАЛІНІК! БРУС І ТОМАС, СЫНЫ ГОТЭМА. ЯКІЯ ПАВІННЫ БЫЛІ КІРАВАЦЬ ГОРАДАМ ЗАРАМ!
SKINNT


АДНАК У ТАКІХ ГІСТОРЫЯХ АДЗІН БРАТ ЗАЎСЁДЫ АКАЗВАЕЦЦА ПРАГНЫМ І ЗАБІРАЕ ЎСЁ САБЕ, ТАК?


ЁН ПРЫБІРАЕ ГОРАД ДА РУК І ЗАБЫВАЕ ПАДЗЯЛІЦЦА З БРАТАМ.
КІДАЕ ЯГО ГНІСЦІ. ТАК ЖА, ЯК ТЫ КІНУЎ МЯНЕ.


АДНАК У ГЭТАЙ ГІСТОРЫІ ІНШЫ КАНЕЦ, БРУС! БО Ў ГЭТЫ РАЗ КІНУТЫ БРАТ НАРЭШЦЕ ПЕРАМОЖА!


ДОБРА, ЛІНКАЛЬН...
...КАЛІ ЎЖО ТЫ ТАК ХОЧАШ БЫЦЬ МАІМ КІНУТЫМ БРАТАМ...


...ТАДЫ ПАДАЙ!

КХЕ! ВЫДАТНА, ХОЧАШ ТРОШКІ РАСЦЯГНУЦЬ НАШ БОЙ?
Я РАДЫ! ЗРОБІМ ГЭТА!
ГЭТЫ ГОРАД БЫЎ ТВАІМ ТАК ДОЎГА... ДАЗВОЛЬ ЖА ПАКАЗАЦЬ ТАБЕ МОЙ! ГОРАД, АБ ЯКІМ Я ЛАВЕЛАЎСЯ З ПАКОЯ Ў ВІЛВУДЗЕ!
ДЛЯ ПАЧАТКУ, СТАРАЯ ВЕЖА! ДЛЯ БОЛЬШАСЦІ НІЧОГА АСАБЛІВАГА, ПРОСТА ОФІСНЫ БУДЫНАК!
АДНАК У ЯСНЫЯ ДНІ, СЕДЗЯЧЫ НА ЛОЖКУ, Я МОГ БАЧЫЦЬ УЭЙН ІНДАСТРЫЗ У АДЛЮСТРАВАННІ!







...САРДЭЧНА ЗАПРАШАЮ Ў ЗАЛЮСТАРКОЎЕ, БРУС!


ПАЖЫВІ ТАК, ЯК ЖЫЎ Я! З САМАГА ПА-ЧАТКУ!
АДЧУЙ СЯБЕ НАНОВА НАРОДЖАНЫМ, ЯК Я Ў ТОЙ АВАРЫІ. ТЫ ЯК ПТУШАНЯ, ЯКОЕ ВЫПАЛА З ГНЯЗДА І ПРАЧНУЛАСЯ АД УДАРА!


ЗАРАЗ ТЫ ДЗІЦЁ, ТЫ РАСЦЕШ, АЛЕ ТЫ ЗЛАМАНЫ. НЕШТА НЕ ТАК. ТЫ НЕ МОЖАШ ГАВАРЫЦЬ, РУХАЦЦА.
АЛЕ ТЫ МОЖАШ БАЧЫЦЬ ПРАЗ НЕВЯЛІКІЯ ШЧЫЛІНЫ МІЖ ПАВЕКАЎ... ТЫ НАЗІРАЕШ.
УСЕ ДУМАЮЦЬ, ШТО ЎНУТРЫ ТЫ СПІШ. ЯНЫ ЧАКАЮЦЬ ТВАЁЙ СМЕРЦІ... І Ў ЛЮБЫ ДЗЕНЬ ТЫ МОЖАШ ПАМЕРЦІ! АЛЕ ТЫ ЖЫВЫ...
...БО ТЫ ЖЫВЫ ЎСЯРЭДЗІНЕ! ТЫ НЕ СПІШ! ТЫ НАВАТ НЕ ВЕДАЕШ, ХТО ТЫ, АЛЕ ТЫ ЎСЁ Ж ТАКІ КІМСЬЦІ З'ЯЎЛЯЕШСЯ! ТЫ АДЧУВАЕШ ГЭТА!


ДЫК ХТО Ж? ХТО?
ЯШЧЭ ТАМ ЁСЦЬ ЖАНЧЫНА. ЯНА ЧАСТА ПРЫХОДЗІЦЬ. СЯДЗІЦЬ КАЛЯ ТВАЙГО ЛОЖКУ. ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО ЯНА ТВАЯ МАЦІ, ШТО ЯНА КЛЮЧ!
АЛЕ ТЫ НЕ МОЖАШ НІ ПАКЛІКАЦЬ ЯЕ, НІ ВАРУХНУЦЦА!


І ВОСЬ АДНОЙЧЫ ЯЕ ПАКАЗВАЮЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРУ Ў ТВАІМ ПАКОІ. І ТЫ ВЕДАЕШ!
АДКРЫЦЦЁ! РАПТАМ ТЫ ВЕДАЕШ, ХТО ТЫ ЁСЦЬ, ТАМУ ШТО СОВЫ ЦЯПЕР ТАКСАМА ТАМ. НАШЭПТВАЮЦЬ ТАБЕ ПА НАЧАХ.
КАЖУЦЬ ТАБЕ, ШТО ТЫ ЎЖО ВЕДАЎ УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС... ШТО ТОМАС УЭЙН МАЛОДШЫ – СЫН ГОРАДА!

ТВАІХ БАЦЬКОЎ БОЛЬШ НЯМА, АЛЕ НЕ ТВАЙГО БРАТА! ЁН УСЁ ЯШЧЭ ТУТ!
І ТЫ ДУМАЕШ, ШТО ЁН ПРЫЙДЗЕ ЗА ТАБОЙ, НЯЎЖО НЕ? ЁН АБАВЯЗКОВА ПРЫЙДЗЕ...
ТЫ ЧАКАЕШ КОЖНЫ ДЗЕНЬ, УВЕСЬ ЧАС, А СОВЫ НАШЭПТВАЮЦЬ, ШТО ТВОЙ ДОМ СТАНОВІЦЦА ПЕКЛАМ.

АЛЕ ЁН НЕ ПРЫХОДЗІЦЬ. ПРЫХОДЗЯЦЬ ТОЛЬКІ СОВЫ, І ХУТКА ЯНЫ РАТУЮЦЬ ЦЯБЕ З ГЭТАГА МЕСЦА, ПАЧЫНАЮЦЬ ВЫЛЕЧВАЦЬ ЦЯБЕ, УЗМАЦНЯЦЬ ТВОЙ РОЗУМ.
А ТЫ ЎСЁ ЧАКАЕШ, ШТО БРАТ ПРЫЙДЗЕ... ЁН ПАВІНЕН УСПОМНІЦЬ ПРА ЦЯБЕ! ТЫ ВЕДАЕШ, ШТО ЁН ПАВІНЕН! АЛЕ ТЫ ЧУЕШ ТОЛЬКІ ТОЕ, ШТО ЧАС ВЫЙШАЎ. ЦАРКОЎНЫ ЗВОН ЗВІНІЦЬ...
БОНГ! БОНГ! БОНГ!

BONG

І, НАРЭШЦЕ, ТЫ ЗВЫКАЕШСЯ. ЗВЫКАЕШСЯ З ТЫМ, ШТО ТВОЙ БРАТ ВЫКІНУЎ ЦЯБЕ З ГАЛАВЫ, І ЗАРАЗ ЯМУ ДАСТАНЕЦЦА ЎСЁ... ЦЭЛЫ ГОРАД. А ТОЙ АДВАРОТНЫ ГОРАД НАЛЕЖЫЦЬ ТАБЕ...

КУДЫ ТВОЙ БРАТ СПАСЛАЎ ЦЯБЕ, У БЛЁКЛАЕ АДЛЮСТРАВАННЕ, У АДВАРОТНЫ БОК ГОРАДА, КУДЫ ЛЮДЗІ ЎВАХОДЗЯЦЬ, АЛЕ ЎЖО НЕ МОГУЦЬ ВЫЙСЦІ. ГОТЭМ МАНІЦЬ ЦЯБЕ Ў ПАСТКУ!










УСЁ ДОБРА, БРУС! МОЖАШ АДПУСЦІЦЬ РУКІ!




ТВОЙ БРАТ ПРЫГЛЯДЗІЦЬ ЗА ТАБОЙ. ТАК ЖА, ЯК І ЗАЎСЁДЫ.




ТЫ Ж ПАВІНЕН БЫЎ АДЧУВАЦЬ ГЭТА, БРУС... ПАЧУЦЦЁ, БЫЦЦАМ ЗА ТАБОЙ НЕХТА СОЧЫЦЬ?


ДЫК ВОСЬ, ГЭТА БЫЛІ МАЕ ВОЧЫ. ЯНЫ САЧЫЛІ ЗА ТАБОЙ ДЗЕНЬ І НОЧ І НЕНАВІДЗЕЛІ ЦЯБЕ ЗА ТОЕ, ШТО ТЫ НЕ ГЛЯДЗІШ НА МЯНЕ, ШТО НЕ АЗІРАЕШСЯ НАЗАД! НЕНАВІДЗЕЛІ ЎСІМІ ЖЫЛАМІ МАЙГО СЭРЦА!
АЛЕ ЎВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС ТЫ ГЛЯДЗЕЎ ТОЛЬКІ НА ЎЛАСНАЕ МАЛЕНЬКАЕ КАРАЛЕЎСТВА, АБНЮХВАЮЧЫ ТВАЕ ВУЛІЦЫ ДЫ ВОКНЫ... А Я Ў ГЭТЫ ЧАС СТАНАВІЎСЯ ЛЕПШ І МАЦНЕЙ З СОВАМІ, РЫХТАВАЎСЯ СТАЦЬ ІХ КАРАЛЁМ!
УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС ТЫ ПРОСТА ПАВІНЕН БЫЎ АЗІРНУЦЦА!


А ТЫ...
...ЛЕПШ БЫ ПАСЛУХАЎ САМ СЯБЕ.


ХА! І ШТО ГЭТА ПАВІННА...


НЕ...








ГАРНІТУР РАЗРА-ДЖАНЫ.
НІЧОГА НЕ ЗАСТАЛОСЯ. НЯМА СІЛАЎ.
НЕ МАГУ БОЛЬШ ТРЫМАЦЦА...


І НЯМА БОЛЬШ ЗА ШТО...
...ЗАЧАПІЦЦА.


ЁН ВЫГЛЯДАЕ ТАКІМ ПРЫГО-ЖЫМ АДСЮЛЬ.
ДЗІК... ТЫ ЗАЎСЁДЫ ЛЮБІЎ ЛЁТАЦЬ НА САМАЛЁЦЕ.
ГЛЯДЗЕЦЬ НА ГОРАД АДСЮЛЬ...
...І Я РАЗУМЕЮ, ЧАМУ.
Я СПРАБУЮ ЗВЫКНУЦЬ...


...АЛЕ НАВАТ КАЛІ Я ГЭТА РАБЛЮ...
...ГОРАД...
...ЁН КЛІЧА МЯНЕ ДА СЯБЕ.
ЁН РАТУЕ МЯНЕ.
І НАГАДВАЕ МНЕ... ШТО Ў НАС ЯШЧЭ ЁСЦЬ ПРАЦА.


ПЕРАКЛЮ-ЧЫЦЬ БЭТ-КІПЦЮР НА ПАВЫШАНУЮ ХУТКАСЦЬ!





УХХ!




А ТЫ ЎСЁ НІЯК НЕ ПАМРЭШ... ТАК, БРАТ?


ШТО Ж, У ГЭТЫ РАЗ Я НЕ ЗРАБЛЮ ПАМЫЛКУ.

ГЭТЫ БУДЫНАК, ВЕДА, ЁН ПАВІНЕН БЫЎ СТАЦЬ ЦЭНТРАМ ТВАЁЙ НЕВЯЛІКАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ Ў ГОТЭМЕ? ЦЯПЕР ЁН СТАНЕ ТВАЁЙ ТРУНОЙ.

НАШАЙ ТРУНОЙ, УСЯГО НА ХВІЛІНКУ, ДЛЯ БРАТОЎ УЭЙНАЎ. АЛЕ Я ВЯРНУСЯ.

ЗЛУЧЭННЕ Ў МАЁЙ КРЫВІ ПАКЛАПАЦІЦЦА ПРА ГЭТА. І НА ГЭТЫ РАЗ ЦЯБЕ КІНУЦЬ ГНІСЦІ АДНАГО. ПАХАВАНАГА ЎНУТРЫ ЎЛАСНАГА ЦЕЛА.



ТЫ ПАМРЭШ. НЕ ЯК У МІНУЛЫЯ РАЗЫ.

ПАМЯТАЕШ, ЯК ТЫ ВЯРНУЎСЯ ЎПЕРШЫНЮ? ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ, КАЛІ Я ТОЛЬКІ ЗАКОНЧЫЎ СВАЁ ЛЯЧЭННЕ ПАД АПЕКАЙ СОЎ.


ЦЯБЕ НЕ БЫЛО ДОЎГІ ЧАС. ТЫ НАКІРАВАЎСЯ Ў ВАНДРАВАННЕ ПА СВЕЦЕ...
...І ЗНІК. СУД АБВЯСЦІЎ, ШТО ТЫ ПАМЕР ДЗЕСЬЦІ Ў ГІМАЛАЯХ, АБО Ў ПРАВУЛКУ Ў ПАРЫЖЫ.


Я АЧУНЯЎ, І ПЛАН СУДА СКЛАДАЎСЯ З ТАГО, КАБ ПРАДСТАВІЦЬ МЯНЕ ГОРАДУ ЯК САМОГА СЯБЕ – ТОМАСА ЎЭЙНА МАЛОДШАГА. Я ЗБІРАЎСЯ ПРЫВЕСЦІ ДОМ УЭЙНАЎ ДА НОВЫХ ВЫШЫНЬ З ІХ ДАПАМОГАЙ.
АЛЕ ПОТЫМ... ВЯРНУЎСЯ ТЫ. З НІАДКУЛЬ.
І СУД ВЫРАШЫЎ, ШТО ДА СЯМ'І ЎЭЙНАЎ НАКІРАВАНА ЗАНАДТА ШМАТ УВАГІ...


ТАМУ ЯНЫ ПРАДСТАВІЛІ «ЛІНКОЛЬНА МАРЧА». Я МОГ ВЯРНУЦЬ ІМ ІХ ГОРАД ІНШЫМ ШЛЯХАМ. «ТЫ БУДЗЕШ ДЗЮБАЙ ВЯЛІКАЙ САВЫ», – СКАЗАЛІ ЯНЫ.
АЛЕ Я НЕ ХАЦЕЎ, БРУС. Я ЖАДАЎ АТРЫМАЦЬ ГОРАД ЦАЛКАМ. ГЭТА БЫЎ МОЙ ЧАС.
ЦЯПЕР МНЕ ЎЖО НЕ АТРЫМАЦЬ ЯГО. І Я ВЕДАЮ ГЭТА. АЛЕ КАЛІ Я НЕ МАГУ СТАЦЬ БУДУЧЫМ ГЭТАГА ГОРАДА, Я СТАНУ ЯГО ТАЕМНЫМ МІНУЛЫМ...


...Я БУДУ МІНУЛЫМ, ШТО ПРЫЙШЛО ЗАБРАЦЬ ЦЯБЕ. ГОТЭМ ПАМЕРЛЫХ, ПРЫВІДНЫ ГОРАД. ТЫЯ, НА КАГО ТЫ НІКОЛІ НЕ АЗІРАЎСЯ З-ЗА СВАЁЙ ФАНАБЭРЫСТАСЦІ. Я ЎЯЎЛЯЮ ІХ.
ДЫК ЗАГІНЬ, ВЕДАЯ ГЭТА, БРАТ. ТЫ? ТЫ ТОЛЬКІ НАТАТКА Ў ГІСТОРЫІ, ВЫБЛІСК, ЯКОМУ ЛЁСАВАНА БЫЦЬ ЗАБЫТЫМ.


Я ЁСЦЬ ГІСТОРЫЯ ГОТЭМА!


НАРЭШЦЕ, КХА...


...МЫ Ў НЕЧЫМ ЗГОДНЫЯ!
АААГХ!


БЯЖЫ, БРЫС, БЯЖЫ АД ПРАЎДЫ!


БЯЖЫ, ЯК І ЗАЎСЁДЫ...


«...АЛЕ КАЛІ ТЫ АДЧУЕШ НА СВАЁЙ ШЫІ ПАКОЛВАННЕ, ВЕДАЙ, ШТО Я ІДУ ЗА ТАБОЙ!»


«ЦЯГНУСЯ ДА ЦЯБЕ З АДВАРОТНАГА БОКУ ТВАЙГО АДЛЮСТРА-ВАННЯ!»





«ЦЭЛАЯ ВЕЖА БЫЛА ЗНІШЧАНА ДА САМАГА ЗАСНАВАННЯ».


«Я ЎЛАСНА ЎСЁ АБШУКАЎ, АЛЕ НІЧОГА НЕ ЗНАЙШОЎ».

«НІ АХВЯР».

«НІ ЦЕЛАЎ, ЗНОЙДЗ-НЫХ ПАД АБЛОМКАМІ».


НЕ, Я ПРОСТА РАДЫ, ШТО НІХТО НЕ ПАПАКУТАВАЎ.


ШТО?
ХА. ТАК, ДЖЫМ. Я РАСКАЗАЎ УСЁ, ШТО ВЕДАЮ. Я НІКОГА НЕ ЧАКАЎ ТАМ АДШУКАЦЬ.
БРУС?


МНЕ ТРЭБА ІСЦІ. УСЁ ДОБРА.
Я ПРЫЙШОЎ ХУТЧЭЙ, ЧЫМ АЛЬФРЭД ПАСПЕЎ СКАЗАЦЬ, ШТО ТЫ НЕ ХОЧАШ НІКОГА БАЧЫЦЬ.
НЕ ХВАЛЮЙСЯ, МНЕ ПАТРЭБЕН ТОЛЬКІ КАМПУТАР.


НЕ, Я РАДЫ ЦЯБЕ БАЧЫЦЬ, ДЗІК.


ХА.
НУУ... ТЫ НЕ ПАВІНЕН ЦЕШЫЦЦА. ЯК ТОЛЬКІ ТАБЕ СТАНЕ ЛЕПШ, Я ПЛАНУЮ ЎЗЯЦЬ РЭВАНШ ЗА ТОЙ УДАР.
І, ШЧЫРА КАЖУЧЫ, ТЫ ВЫГЛЯДАЕШ ЛЕПШ, ЧЫМ Я ЧАКАЎ... ЯК НАКОНТ НАВІН З ПЕРШЫХ КРЫНІЦ, ПАКУЛЬ ТЫ ЯШЧЭ МОЖАШ ГАВАРЫЦЬ? ШТО З СУДОМ?



«Я ЎСЁ ЯШЧЭ РАССЛЕДУЮ ГЭТУЮ СПРАВУ, КІРУЮЧЫСЯ ГРАШЫМА. АДНАК НА САМОЙ СПРАВЕ ІХ РЭСУРСЫ ВЕЛІЗАРНЫ. А ЛАБІРЫНТ, ЯКІ ЯНА ПАБУДАВАЛІ, КАБ СХАВАЦЬ ШЛЯХІ ДА ІХ... БЕЗ СУМНЕВУ, ЯНЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ТАМ...»

«...АДНАК ЯНЫ ЗЛОМЛЕНЫ. І ЯНЫ БУДУЦЬ ПАКУТАВАЦЬ І ДАЛЕЙ, ПАКУЛЬ Я НЕ АДШУКАЮ ІХ УСІХ...»



«...І НЕ СМЫЮ ЎСЕ СВЕДЧАННІ ІСНАВАННЯ СУДА».










ТАК. АЛЕ ПАСЛЯ ЗМЯНЕННЯ АДНОСІН МІЖ НАМІ Ў АПОШНІ ЧАС... КАЛІ СУМЛЕННА, НЕ ХАЦЕЎ ЛЕЗЦІ КУДЫ НЕ ПРОСЯЦЬ.


НЕ. Я Б ХАЦЕЎ, КАБ ТЫ ВЕДАЎ.
БЫЛО І ІНШАЕ ДЗІЦЁ ЎЭЙНАЎ...


...МНЕ БЫЛО ТРЫ ГАДЫ, КАЛІ МАМА БЫЛА ЦЯЖАРНА... ІМ. МЫ ТРАПІЛІ Ў АЎТАКАТАСТРОФУ ЎСЕ РАЗАМ. Я НЕ... НЕ ПАМЯТАЮ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ. АЛЕ ЁСЦЬ ЗАПІСЫ.
ЁН НАРАДЗІЎСЯ ЗАЎЧАСНА З НЕЎРАЛАГІЧНАЙ ТРАЎМАЙ. НАСТОЛЬКІ СУР'ЁЗНАЙ, ШТО ЁН ЗАСТАВАЎСЯ Б У СТАБІЛЬНЫМ ВЕГЕТАТЫЎНЫМ СТАНЕ, КАЛІ Б ПЕРАЖЫЎ ПЕРШПАЧАТКОВУЮ ТРАЎМУ.




АЛЕ ЁН НЕ ВЫЖЫЎ?


ВЫЖЫЎ...
...НА АДНУ НОЧ.







ТАКСАМА Я ЗНАЙШОЎ НЕКАТОРЫЯ АРЫГІНАЛЬНЫЯ ЗАПІСЫ НА ПАПЕРЫ З ВІЛВУДА, І ТАМ УЗГАДВАЕЦЦА НЕЙКАЕ НЕВЯДОМАЕ ДЗІЦЯ, ЯКОЕ ТРАПІЛА ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ ПАСЛЯ СМЕРЦІ ТОМАСА.
У ЗАПІСАХ ТАКСАМА ЗАПІСАНА, ШТО МАЯ МАЦІ ЧАСТА НАВЕДВАЛА ЛЯКАРНЮ.
АЛЕ ЯНА НАВЕДВАЛА ЎСЕ МЕСЦЫ, ЯКІЯ ФІНАНСАВАЛА. БРОШКА Ў ВЫГЛЯДЗЕ СЭРЦА МАГЛА БЫЦЬ АТРЫМАНА ЗА ГРАМАДСКУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ.
УСЁ ГЭТА МОГ ВЫКАРЫСТАЦЬ СУД, КАБ ПЕРАКАНАЦЬ ЛІНКАЛЬНА, ШТО ЁН МОЙ БРАТ.
І ЎСЁ Ж ТАКІ, КАЛІ ТЫ МЯНЕ СПЫТАЕШ, ЦІ ЛІЧУ Я РАСКАЗ ЛІНКАЛЬНА ПРАЎДАЙ...
...Я МАГУ ТОЛЬКІ СКАЗАЦЬ, ШТО БЕЗ ЯГО ДНК Я НЕ МАГУ БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫ.
ХАЛЕРА НА МАЮ ГАЛАВУ, НІЯК НЕ ДАВЕДАЦЦА, ЦІ НЕ З'ЯЎЛЯЛІСЯ ЗАМАХІ ЛІНКОЛЬНА НА ІМЯ МАЙГО БРАТА ЧАСТКАЙ ПЛАНА СУДА. МАГЧЫМА, ЯНЫ АХВЯРАВАЛІ СВАІМІ СЯБРАМІ І ПАДСТАВІЛІ ЯГО, КАБ ЗАБЛЫТАЦЬ МЯНЕ, АЛЬБО ПРЫХАВАЦЬ ЧАС.
ДЛЯ МЯНЕ ГЭТА ЎСЁ ЯШЧЭ ЗАГАДКА.


І ПАСЛЯ ЎСЯГО ГЭТАГА ТЫ Ў ДОБРЫМ СТАНЕ?
НЕ, НЕ Ў ДОБРЫМ. АЛЕ Я ПАВІНЕН БЫЦЬ У ГЭТЫМ ГОРАДЗЕ.
НУ, ГЭТА ВЕЛЬМІ ВЯЛІКА-ДУШНА...

ПАКУЛЬ НЕ АДШУКАЮ ДОКАЗЫ.

САВІНЫ СУД СПРАБАВАЎ РАЗБУРЫЦЬ УСЁ, ВА ШТО Я ВЕРУ, АЛЕ АДЗІНАЕ, У ЧЫМ ЯНЫ НЕ ЗМАГЛІ ПРЫМУСІЦЬ МЯНЕ ЗАСМУЧАЦЦА, ГЭТА ВЕРА Ў МАІХ БАЦЬКОЎ, КАЛІ Б ТОМАС МАЛОДШЫ ВЫЖЫЎ ТОЙ НОЧЧУ, ЯНЫ БЫ МНЕ СКАЗАЛІ.
ЯНЫ Б СКАЗАЛІ. Я ВЕДАЮ ГЭТА.
Я ВЕРУ, ШТО ТЫ ВЕРЫШ, БРУС. АЛЁ ЎСЁ Ж ТАКІ...
КАЛІ Б ТОМАС НЕ МОГ АЧУНЯЦЬ, КАЛІ Б УСЁ БЫЛО БЕЗНАДЗЕЙНА...
СЛУХАЙ, Я КАЖУ ПРА ТОЕ, ШТО ЧАСАМ, АБАРАНЯЮЧЫ ЛЮДЗЕЙ, ПАЗБАЎЛЯЕШ ІХ АД ПАКУТЛІВАЙ ПРАЎДЫ І СПАЧУВАЕШ САМАСТОЙНА... ВЕДАЕШ, ЦЯПЕР Я БАЧУ, ШТО ГЭТА ВЫСАКАРОДНА.

...
СЛУХАЙ, ДЗІК. ВЕДАЮ, БЫЛО ЦЯЖКА ДАВЕДАЦЦА, ШТО ТЫ ПАВІНЕН БЫЎ СТАЦЬ КІПЦЮРОМ, СТАЦЬ АДНІМ З СОЎ.
ЭММ, ДЗЯКУЙ, Б...
Я НЕ ЗАКОНЧЫЎ.
ВЕДАЮ, МОЖА ЗДАЦЦА, БЫЦЦАМ Я ВЫРАТАВАЎ ЦЯБЕ АД ГЭТАЙ ДОЛІ. АЛЕ ТЫ НІКОЛІ Б І НЕ СТАЎ АДНЫМ З ІХ. НІКОЛІ. МОЖА, ЯНЫ І ЗАЎВАЖЫЛІ Ў ЦЯБЕ НЕШТА. АЛЕ ЗАЎВАЖЫЎ І Я.
ПРАЎДА Ў ТЫМ, ШТО Я НЕ ВЫРАТАВАЎ ЦЯБЕ АД ЦЁМНАГА ЛЁСЦУ ТАДЫ, ШМАТ ГАДОЎ НАЗАД. ГЭТА ТЫ ВЫРАТАВАЎ МЯНЕ.

І ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ РАТУЕШ МЯНЕ, КОЖНЫ ДЗЕНЬ.
...
ЧОРТ, БРУС. ЦЯПЕР Я НЕ ЗМАГУ ЦЯБЕ СТУКНУЦЬ. ПРЫЙДЗЕЦЦА ЗРАБІЦЬ ГЭТА Ў ІНШЫ РАЗ. ХАЦЯ, ГЭТА ФАЙНА. Я ПАДКРАДУСЯ І ЗРАБЛЮ ТАБЕ СЮРПРЫЗ.
ПАСПРА-БУЙ.


ДЫК ТЫ ЗБІРАЕШСЯ ДАБУДОЎВАЦЬ?
ТЫ ПРА ВЕЖУ? ТАК. ТОЛЬКІ ВЫШЭЙ. ТАК І НАОГУЛ Я ЗБІРАЮСЯ ПАДВОІЦЬ НАМАГАННІ.
ШТО Ж, ПРЫЕМНА ВЕДАЦЬ, ШТО СОВЫ НЕ НАПУЖАЛІ БРУСА І НЕ ПРЫМУСІЛІ ВЯРНУЦЦА ЯГО Ў СВАЮ ПЯЧОРУ.
НААДВАРОТ. ГЭТА ДЗІЎНА, ДЗІК. ТРОХІ РАНЕЙ, ЯК Я СУСТРЫЭСЯ З СУДОМ, МНЕ Ў ГАЛАВУ ПРЫЙШЛА ДУМКА, ШТО ГЭТЫ ГОРАД МОЙ. ДАКЛАДНЕЙ, БЭТМЭНА.


ЧАСТКА МЯНЕ РАБІЛА ЎСЁ ГЭТА, КАБ МЕЦЬ БОЛЬШ НАЗІРАЛЬНЫХ ПУНКТАЎ. ІНІЦЫЯТЫВА БЫЛА, ХУТЧЭЙ, ДЛЯ БЭТМЭНА, ЧЫМ ДЛЯ ГОРАДА. АЛЕ ЗАРАЗ Я БАЧУ, ШТО ПАМЫЛЯЎСЯ.


БО ГОТЭМ – ГЭТА НЕ БЭТМЭН.
ГОТЭМ – ГЭТА НЕ СОВЫ.
ГОТЭМ – ГЭТА...
ГОТЭМ – ГЭТА ЎСЕ МЫ.


НУ І ТРОШКІ БЭТМЭНА.


УРЭШЦЕ РЭШТ, Я ПАВІНЕН СКАЗАЦЬ, ШТО ЎДЗЯЧНЫ САВІНАМУ СУДУ ЗА ЎРОК. БО, КАЛІ ЯНЫ РАСПАЛІСЯ... КАЛІ ЯНЫ РАСПАЛІСЯ...

SCOTT SNYDER writer
GREG CAPULLO penciller
JONATHAN GLAPION inker

# ВАРТАВЫ МАЙГО БРАТА

FCO PLASCENCIA colorist
RICHARD STARKINGS and COMICRAFT'S JIMMY BETANCOURT lettering
KATIE KUBERT assistant editor
MIKE MARTS editor
GREG CAPULLO & FCO PLASCENCIA cover
ANDY CLARKE & TOMEU MOREY variant cover

BATMAN created by BOB KANE

...Я БУДУ НАЗІРАЦЬ ЗАЎСЁДЫ.



КАНЕЦ

ПАДЗЕННЕ ДОМА УЭЙНАЎ
ЗАКЛЮЧЭННЕ
WRITERS:
SCOTT SNYDER & JAMES TYNION IV
ART:
RAFAEL ALBUQUERQUE
COLORS:
DAVE McCAIG
LETTERS:
DEZI SIENTY
ASSISTANT EDITOR:
KATIE KUBERT
EDITOR:
MIKE MARTS
BATMAN CREATED BY
BOB KANE
СКРЫГАТ МЕТАЛА, ПАДПАЛЕНАЯ ГУМА І АГОНЬ... І АДРАЗУ ПАСЛЯ ІХ АБСАЛЮТНАЯ ЦЕМРА.
ЦЕМРА, СКРОЗЬ ЯКУЮ ІРВАЛІСЯ КРЫКІ ПАЦЯРПЕЛАЙ МАРТЫ ЎЭЙН...
...ВОСЬ ШТО Я ПАМЯТАЮ ПРА ТУЮ ЖУДАСНУЮ НОЧ, АЛЬФРЭД.
КРЫКІ... І КРОЎ. МАЯ, ЯЕ, БРУСА... НА МАІМ ТВАРЫ, НА РУКАХ.
О, СЫНКА... КРОЎ...

ЛЕДЗІ МАРТА БОЛЬШ АСТАТНІХ ПАЦЯРПЕЛА Ў ГЭТАЙ АВАРЫІ, ЗАТУЛЯЮЧЫ ЮНАГА БРУСА АД НЕБЯСПЕЦЫ, І ЯЕ ТРАЎМЫ СТАЛІ ПРЫЧЫНАЙ ЗАЎЧАСНАГА НАРАДЖЭННЯ І СМЕРЦІ ЯЕ НЕДАНОШАНАГА ДЗІЦЯЦІ.
ДНІ ПАСЛЯ КАТАСТРОФЫ БЫЛІ САМЫМІ ЦЁМНЫМІ... МАРТАЙ АВАЛОДАЎ СМУТАК.
НЕЯК НОЧЧУ Я ЧУЎ, ЯК ЯНА ШЭПТАЛА МАЙСТРУ ТОМАСУ, ШТО ІХ НЕНАРОДЖАНЫ СЫН ПРАЦЯГВАЕ ЖЫЦЬ. КАЛІ ЯНА ЗАЎВАЖЫЛА МАЁ НАБЛІЖЭННЕ, ЯНА, ЗДАВАЛАСЯ, СПАЛОХАЛАСЯ АД УЛАСНЫХ СЛОЎ.
КАБ УШАНАВАЦЬ ПАМЯЦЬ СВАЙГО ДЗІЦЯЦІ І, МАГЧЫМА, ПАСЛАБІЦЬ СВАЕ ПАКУТЫ, УЭЙНЫ ПАСАДЗІЛІ НА ЎСКРАЙКУ МОГІЛАК УЭЙНАЎ ВЯРБУ...
...ТАМ ЁН МОГ БЫЦЬ ЧАСТКАЙ СЯМ'І ДЛЯ БУДУЧЫХ ПАКАЛЕННЯЎ.
АДНАК НІКОМУ З НАС НЕ СТАЛА ЛЯГЧЭЙ АД ГЭТАГА ДРЭВА. І ТАДЫ МАЙСТАР ТОМАС ВЫРАШЫЎ, ШТО ЎСІМ БУДЗЕ ЛЕПШ, КАЛІ ЯНЫ ЎЕДУТ З КРАІНЫ НА ЛЕТА. КАБ ВЫЛЕЧЫЦЦА АД ГОРАДА.
КАЛІ Я ДАПАМАГАЎ ЯМУ ЗБІРАЦЬ РЭЧЫ, У ГЛЫБІНІ ДУШЫ Я ЖАДАЎ ЗАБЫЦЬ БОЛЬ ГЭТЫХ ДЗЁН, ЯК МАЙСТАР БРУС...
...І ХАЦЕЎ ВЯРНУЦЦА ДА РАДАСЦІ ЖЫЦЦЯ, ЯКУЮ СПЫТВАЎ УСЯГО ТА НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ НАЗАД.
АЛЕ Ў ГЛЫБІНІ МАЙГО СУМЛЕННЯ ЗАМІГЦЕЛА ДУМКА ПРА ПАГРОЗУ, ЯКУЮ Я АТРЫМАЎ У ТОЙ ВЫЗНАЧАЛЬНЫ ДЗЕНЬ.

І КАЛІ ТЭЛЕФОН ЗАЗВОНІЎ ДРУГІ РАЗ ЗА ВЕЧАР, Я ВЕДАЎ, ХТО БУДЗЕ НА СУВЯЗІ.

BBBRIIINNG

BBRING

ВЫ НЕ ПАСЛУХАЛІСЯ НАС, МІСТАР ПЕНІВОРТ, АЛЕ МЫ ЎСЁ Ж АТРЫМАЛІ ТОЕ, ШТО ХАЦЕЛІ... ШКОЛЫ БОЛЬШ НЯМА, МАЛЕНЬКАГА ЎЭЙНА ТАКСАМА... ХА...

І ЦЯПЕР, КАЛІ АСНОЎНАЯ НАША ПРАЦА ЗРОБЛЕНА, ВОЧЫ СОЎ НАКІРАВАНЫЯ НА ВАС.

АБ ЧЫМ ГЭТА ВЫ?!

ДЖАРВІС ПЕНІВОРТ... МЫ НЕБЯСПЕЧНЫ ВОРАГ У ГОТЭМЕ. І НЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ ВАС, АЛЕ І ДЛЯ ТЫХ, КАГО ВЫ ЛЮБІЦЕ. ДЛЯ ВАШАЙ СЯМ'І. ДЛЯ СЫНА... АЛЬФРЭДА...

АДЧАПІЦЕСЯ... АДЧАПІЦЕСЯ АД МАЙГО СЫНА, КАТЫ! ЧУЕЦЕ?!

МЫ НАЗІРАЕМ ЗА ВАМІ ПАЎСЮЛЬ: У ЛОЖКУ ДОМА, КАЛЯ КАМІНУ...

І СЁНЯ ЦЕНІ, ЯКІЯ ПЕРАСЛЕДУЮЦЬ АСАБНЯК УЭЙНАЎ, ПРЫЙШЛІ ЗА МНОЙ.

МАЯ МЭТА... АДЗІНАЯ МЭТА – БЫЦЬ З ТАБОЙ, ДАРАГІ СЫН. І УТРЫМАЦЬ ЦЯБЕ. АЛЕ...

...КАЛІ НАМ БОЛЬШ НЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА СУСТРЭЦЦА, ЗАПОМНІ ГЭТУЮ ПРАСТУЮ ПРАЎДУ.

ЗАПОМНІ, ЯК Я ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ. ПРАБАЧ МНЕ ЗА ШМАТЛІКІЯ БАЦЬКОЎСКІЯ ГРАХІ І ВЕДАЙ, ШТО Я СПРАБАВАЎ ЗРАБІЦЬ ЛЕПШАЕ ЖЫЦЦЁ ДЛЯ ЦЯБЕ.

І ПРАШУ, ЗАПОМНІ, ТРЭБА БАЯЦЦА ГОТЭМА. НІКОЛІ НЕ ПРЫЯЗДЖАЙ СЮДЫ, НАВАТ НА ВЫПАДАК МАЁЙ СМЕРЦІ. ГЭТА ПРАКЛЯТАЕ МЕСЦА, МЕСЦА, ЯКОЕ ПРЫВАБІЦЬ ЦЯБЕ ЛЮБОЎЮ, НАДЗЕЯЙ... А ЗЯМЛЯ ЎЭЙНАЎ, ЯНА САМАЯ ГАНЕБНАЯ. ГЭТА ПРЫВАБНАЯ ЗЯМЛЯ...

...АДНАК Я ПАВІНЕН СПЯШАЦЦА. Я СПАДЗЯЮСЯ, ШТО КАЛІ ПАМРУ, ГЭТА ПАПЯРЭДЖАННЕ ПРЫЙДЗЕ ДА ЦЯБЕ І АСЦЯРЭЖЫЦЬ ЦЯБЕ АД БЯДЫ.

АЛЬФРЭДУ.

З ЛЮБОЎЮ І РАСКАЯННЕМ,

ТВОЙ БАЦЬКА

ДЖАРВІС ПЕНІВ...

нашы дні.

Джарвіс Пеніворт

JARVIS PENNYWORTH

КВЕТКІ ПРЫГОЖЫЯ, АЛЬФРЭД. УПЭЎНЕНЫ, ТВАЙМУ БАЦЬКУ ЯНЫ Б СПАДАБАВАЛІСЯ.

А Я НЕ ЎПЭЎНЕНЫ. У ЯГО НІКОЛІ НЕ БЫЛО ЧАСУ НА МАЕ ДЗІЎНАСЦІ... АКТОРСТВА, БАТАНІКА... ЁН СТАЛА ДАКУЧАЎ МНЕ, РАІЎШЫ АДНОСІЦЦА БОЛЬШ СУР'ЁЗНА ДА ТАГО, ШТО МЯНЕ ЧАКАЕ Ў ЖЫЦЦІ.

УЖ КАЛІ ШТОСЬЦІ І ПАДРЫХТАВАЛА МЯНЕ ДА ЖЫЦЦЯ НАПРАЦЯГУ АПОШНЫХ ГАДОЎ... ДЫК ГЭТА ДАКЛАДНА НЕ МОЙ БАЦЬКА, ЯКОЙ БЫ НІ БЫЛА ЯГО СМЕРЦЬ.

ЗНАЧЫЦЬ, УСЕ ГЭТА ТАМУ, ШТО Я ЗНАЙШОЎ ПРОЗВІШЧА ПЕНІВОРТАЎ У САВІНЫМ ЛАБІРЫНЦЕ.

МЫ МОЖАМ ДАВЕДАЦЦА ПРАЎДЫ, АЛЬФРЭД. МЫ ВЫКАПАЕМ ЦЕЛА І ВЫСВЕТЛІМ САПРАЎДНУЮ ПРЫЧЫНУ СМЕРЦІ...

СПРАВА НЕ Ў ПРЫЧЫНЕ СМЕРЦІ, МАЙСТАР БРУС.

НЕ АДМАЎЛЯЮ, У ТЫМ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ Ў АПОШНЫЯ ТЫДНІ, ЁСЦЬ НЕШТА ТАЯМНІЧАЕ. УЗГАДВАЛАСЯ ІМЯ МАЙГО БАЦЬКІ...


...ЧАЛАВЕКА, ЯКОГА ЗАБІЛІ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ТЫДНЯЎ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЗАГІНУЎ ВАШ БРАТ, ПРА ІСНАВАННЕ ЯКОГА ВЫ І НЯ ВЕДАЛІ.
ВОСЬ ЧАМУ Я ЛІЧУ, ШТО НАШ АБАВЯЗАК – ДЗЕЙНІЧАЦЬ.
МЫ І ДЗЕЙНІЧАЕМ. КОЖНЫ СВАІМ ШЛЯХАМ.


Я ПАМЯТАЮ ВОБЛАКА ЦЕМРЫ НАД МАЁНТКАМ, КАЛІ ЎПЕРШЫНЮ ПРЫБЫЎ СЮДЫ... У ТОЙ ЧАС Я І САПРАЎДЫ ДУМАЎ, ШТО ГЭТА ЗЯМЛЯ ПРАКЛАТАЯ. БЫЦЦАМ ТУТ НЕШТА НАСЯЛЯЕ.
ДУМАЮ, ТАК ЯНО І БЫЛО. ТАЯ АВАРЫЯ НАВІСЛА ХМАРАЙ У ПЕРШЫ ГОД ТВАЙГО ЗНАХОДЖАННЯ ТУТ.
ТА БЫЛО БОЛЬШАЕ... ВЫ Е, ШТО Я НІКОЛІ АЎ СВАЙГО БАЦЬКУ ТУТ? Я АМАЛЬ ВЕДАЎ ЯГО, КАЛІ ЁН ЗАГІНУЎ.


І ЎСЁ Ж ПЕРШЫ ЧАС Я АДЧУВАЎ ЯГО ПРЫСУТНАСЦЬ. БЫЦЦАМ СПРАБАВАЎ МНЕ НЕШТА СКАЗАЦЬ. І Я НІЧОГА НЕ МОГ ЗРАБІЦЬ, АЛЕ СПРАБАВАЎ СТАЦЬ ТЫМ ЧАЛАВЕКАМ, ЯКІМ ЁН ХАЦЕЎ БАЧЫЦЬ.


УСЁ СВАЁ ЖЫЦЦЁ Я ПРЫСВЯЦІЎ ТАМУ, МАЙСТАР БРУС, КАБ ДАВЕДАЦЦА, КІМ БЫЎ МОЙ БАЦЬКА.
І Ў МЯНЕ НЯМА ЖАДАННЯ ШУКАЦЬ ПРАЎДУ.


КАЛІ САВІНЫ СУД І БЫЎ НЕЯК ДАТЫЧНЫ ДА СМЕРЦІ МАЙГО БАЦЬКІ, ТАДЫ ТАГО, ШТО ВЫ З ІМ ЗРАБІЛІ ЗА АПОШНІЯ ТЫДНІ, БУДЗЕ ДАСТАТКОВА.












Я ВЕДАЮ, ШТО ВЫ ЗРОБІЦЕ ТАКІМ ЧЫНАМ, ЯК ТРЭБА, КАЛІ ПРЫЙДЗЕ ЧАС.
АЛЕ ЗАРАЗ ЗДАНІ ДАЎНО ПАМЕРЛЫХ СВАЯКОЎ ЗАСЛУГОЎВАЮЦЬ...




Канец